Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

9 жніўня 1997 года

СУБОТА

№ 39

Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Прыгавор вынесены. Ці перамагла справядлівасць?

Барысаўскі раённы суд закончыў разгляд справы Уладзіміра Аляксеевіча Кудзінава, былога дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, які абвінавачваўся па арт. 15 ч. 2 і 170 ч. 2 (спроба дачы хабару і дача хабару). Суд прызнаў У. А. Кудзінава вінаватым і прысудзіў яго да пазбаўлення волі на 7 гадоў з адбываннем тэрміну ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

У. А. Кудзінаў сваёй віны не прызнаў катэгарычна. У апошнім слове, прадастаўленым яму судом, ён заявіў, што падвергся насіллю і што справа яго сфабрыкавана.

На судовым працэсе, які доўжыўся два тыдні, прысутнічалі прадстаўнікі прэсы, былыя дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання (ад апазіцыі), назіральнікі праваахоўных камітэтаў і арганізацый. Вось што заявіў прадстаўнікам прэсы член савета Беларускага Хельсінскага Камітэта Б. І. Звозкаў:

– У справе У. А. Кудзінава парушаны многія палажэнні крымінальна-працэсуальнага Кодэксу. Гэта – і складанне пратаколаў заднім чыслом, перапісванне іх, і правядзенне следчых дзеянняў да ўзбуджэння крымінальнай справы (я маю на ўвазе правядзенне гуказапісу). Аднак адно з палажэнняў нашага заканадаўства абавязвае суддзю спыніць разгляд справы ў выпадку, калі крымінальна-працэсуальны Кодэкс парушаецца. Але суддзі справу У. А. Кудзінава не спынілі. Тут відавочна палітычная падаплёка. Гэтая справа, для мяне ясна, заказная, на яе ўзбуджэнне паступіла аднекуль каманда. На жаль, гэта цяпер праследжваецца на многіх працэсах...

**(Справаздача аб судовым працэсе над У. А. Кудзінавым будзе апублікавана ў адным з бліжэйшых нумароў „Газеты для вас" ).**

### Моладзь цягнецца да навукі

**ІВАЦЭВІЧЫ.** З-за эканамічнай неразбярыхі, якая пануе ў нашай народнай гаспадарцы, у акцыянерным таварыстве „Івацэвічдрэў" не адвярнуліся ад моладзі. Прадпрыемства па-ранейшаму дае накіраванні на вочнае і завочнае навучанне ў ВНУ і тэхнікумы маладым рабочым. Цяпер, напрыклад, ад акцыянернага таварыства ў інстытутах вучыцца 20 чалавек на вочных аддзяленнях і 5 чалавек завочна. 7 чалавек павышаюць адукацыю ў тэхнікумах. Пры ўмове паспяховай вучобы прадпрыемства выплачвае студэнтам стыпендыі і робіць даплату да яе ў памеры 30 працэнтаў. Летась на гэтыя мэты зрасходавана больш за 111 мільёнаў рублёў.

Выпускнікі вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, накіраваныя на вучобу, забяспечваюцца рабочым месцам у адпаведнасці з атрыманай спецыяльнасцю.

Маладым рабочым даюцца дадатковыя водпускі да трох дзён без скарачэння працягласці штогоднага водпуска ў выпадку ўступлення ў шлюб ці нараджэння дзіцяці. Акрамя гэтай ільготы, жанчыны, дзеці якіх ідуць у першы клас, карыстаюцца 1 верасня аплачваемым водпускам.

### Баран любіць павагу

**БАРАНАВІЧЫ.** Дзед з вёскі Лотвічы пас статак свойскіх авечак. Задрамаў, а баран ні з таго ні з сяго бадануў пастуха прама ў галаву. Раззлаваны дзед зарэзаў барана–хулігана. Свежаніна елася з апетытам, ды з-за сваёй спешкі дзед падавіўся косткай. Трапіў небарака ў раённую бальніцу, давялося медыкам ратаваць аматара мясца.

Да барана трэба адносіцца з павагай.



*ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ БУДАЎНІКА*



*Свята ідзе на рыштаванні, але не ў кожны дом. Сем'і будаўнікоў жывуць, як усе: тыя ж наракані на нізкую зарплату, на дарагоўлю прадуктаў, на бязладдзе ў грамадстве. „Горш, чым пасля вайны", – сумна сказаў ветэран–будаўнік, ацэньваючы агульную сітуацыю.*

*Калі ж звярнуцца да лічбаў, дык быццам бы будаўнічы комплекс перажывае цяпер свой рэнесанс. На працягу першага паўгоддзя гэтага года, напрыклад, будаўнічыя арганізацыі Івацэвіцкага раёна не зніжаюць тэмпаў. Імі выканана падрадных работ на 57800 млн. рублёў – на 63 працэнты больш, чым у адпаведны перыяд леташняга года. Здадзена ў эксплуатацыю жылля агульнай плошчай 11.347 квадратных метраў. Ізноў рост: летась было здадзена 726 квадратных метраў. Але ж за імі не бачна, як кажуць, адваротнага боку медаля: колькі расцягнута будматэрыялаў і колькі іх трапіла на асабістыя палацы начальнікаў і іх падхалімаў, колькі замарожана аб'ектаў, колькі ўводаў адкладзена на лепшыя часы...*

*Якімі б ні былі рапарты працоўных перамог, людскому воку бачна, што будуем менш, будуем горш і будуем марудней. Аргвывады рабіць не варта. Навошта ўсё спісваць на будаўнікоў, калі ўся эканоміка краіны хворая і патрабуе карэннага змянення?*

*Забудзем на імгненне пра нашы нелады. Заўтра ж дзень асаблівы. Вышэй галовы, будаўнікі! Са святам Вас!*

***НА ЗДЫМКУ:** цішыня ды супакой – звычайны малюнак на звычайных будаўнічых пляцоўках.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### Не грузна, калі дружна

**БАРАНАВІЧЫ.** Калі некалькі гадоў таму па ініцыятыве ўладаў у горадзе была створана яшчэ адна будаўнічая перасовачная механізаваная калона №3, будаўнікі здзіўляліся: навошта? Аддзелачных арганізацый, сельскіх і гарадскіх, хапае. Адно будаўнічае ўпраўленне № 189 будтрэста № 25 здольнае асвоіць увесь фронт аддзелачных работ. Нават збоку заказы прыхоплівала.

– Няхай будзе канкурэнт. Ад гэтага людзі і фірмы толькі выйграюць, – разважалі ў вярхах.

І не прагадалі. Начальнік ПМК-3 Віталь Іванавіч Трышчанка і яго каманда так паставілі справу, што хутка пацяснілі з самых адказных аб'ектаў сваіх сапернікаў якасцю і тэрмінам выканання заказаў.

У гэтыя дні аддзелачнікі дапамагаюць рэканструяваць цэх на авіярамонтным заводзе, вытворчыя памяшканні на чыгуначнай станцыі Лесіна, калгасны рынак, аздараўленчы лагер „Чабарок".

Як сказалі б раней, самааддана працай калектыў адсунуў сапернікаў і ўпэўнена заняў сваю нішу на будаўнічым рынку.

● *НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ*

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### СТРАТНЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ – СТРАТНАЯ ЭКАНОМІКА

У Беларусі пастаянна расце колькасць стратных прадпрыемстваў.

Паводле стану на 1 мая 1997 года ў Беларусі было 2.658 стратных прадпрыемстваў, альбо 26,7% ад агульнай колькасці абследаваных. Сума агульных стратаў дасягае 2,2 трыльёна рублёў. У прамысловасці сярод стратных прадпрыемстваў 56,4% складаюць прадпрыемствы дзяржаўныя, 43,6% – прадпрыемствы недзяржаўнай формы ўласнасці, у будаўніцтве – адпаведна 62,1% і 37,9%. Больш усяго стратных прадпрыемстваў – у Віцебскай вобласці (31,5%), Мінскай (27,9%), Магілёўскай і Гродзенскай (па 26%),

### НАЦЫЯ СТРАЧВАЕ ЗДАРОЎЕ, ХТОСЬЦІ – МІЛЬЁНЫ ДОЛАРАЎ

Мінскі лікёра-гарэлачны завод „Крышталь" рэзка скараціў пастаўкі сваёй прадукцыі за межы Беларусі. Між тым, яшчэ год таму экспартныя аперацыі прынеслі прадпрыемству больш як 3 мільёны долараў ЗША. Краіны Заходняй Еўропы і СНД увялі жорсткія абмежаванні на імпарт белай гарэлкі. У выніку адзіным замежным рынкам збыту прадукцыі „Крышталя" застаецца рынак Расійскай Федэрацыі. Аднак ён забяспечвае толькі 12 працэнтаў экспартных магчымасцей мінскага завода.

На думку спецыялістаў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, цяпер „Крышталь" і іншыя прадпрыемствы галіны яшчэ маюць шанцы на аднаўленне страчанага канкурэнтнага патэнцыялу. Але без умяшання ўрада тут не абысціся. За кошт зніжэння долі дзяржаўных акцызаў у кошце алкагольных вырабаў беларускую прадукцыю зноў можна зрабіць прывабнай для замежных пакупнікоў, тым больш, што пастаўкі спіртнога на ўнутраны рынак ужо сёння перавышаюць усе разумныя межы. У першым паўгоддзі грамадзяне Беларусі на куплю моцных напіткаў патрацілі больш як 6 трыльёнаў рублёў.

### АФАРМЛЕННЕ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ, ЯКІЯ ЎВОЗЯЦЦА Ў БЕЛАРУСЬ, БУДЗЕ РАБІЦЦА ТОЛЬКІ ПРЫ НАЯЎНАСЦІ ФІНАНСАВЫХ ГАРАНТЫЙ

З 4 жніўня мытнае афармленне транспартных сродкаў, якія ўвозяцца на тэрыторыю Беларусі, у тым ліку транзітам, набытых грамадзянамі за мяжой, робіцца пры наяўнасці фінансавых гарантый.

Апошнія могуць быць прадстаўлены шляхам афармлення мытнай дэкларацыі – для беларускіх грамадзян, а таксама афармлення часовай мытнай дэкларацыі – для грамадзян Расіі і краін СНД.

Для ўнясення фінансавых гарантый на мяжы вызначаны наступныя стаўкі: у адносінах да легкавых аўтамабіляў з тэрмінам эксплуатацыі да 3 гадоў – у памеры 1 ЭКЮ за 1 кубічны сантыметр аб'ёма рухавіка; больш за 3 гады – 0,3 ЭКЮ за 1 кубічны сантыметр; у адносінах да аўтобусаў і грузавых аўтамабіляў – у памеры 1000 ЭКЮ за транспартны сродак.

### Т. ВІННІКАВУ НЕ ВЫПУСКАЮЦЬ З КАМЕРЫ

Тамара Віннікава, якая ўжо больш за паўгода знаходзіцца пад вартай у следчым ізалятары КДБ, неаднаразова звярталася з хадайніцтвам аб змене меры стрымання.

Адвакаты Віннікавай сцвярджаюць, што па стане здароўя яна не можа знаходзіцца ва ўмовах ізалятара. Судова-медыцынская экспертыза выявіла ў Тамары Віннікавай шэраг сур'ёзных захворванняў розных органаў і функцый (у тым ліку – інфекцыйнае захворванне), якія патрабуюць неадкладнага ўрачэбнага ўмяшання. Рэкамендавана зрабіць Т. Віннікавай складаную аперацыю.

Аднак суд не жадае змяніць жанчыне меру стрымання, а на аперацыю ў ізалятары, дзе вельмі дрэнныя санітарныя ўмовы, не згаджаецца ні сама Віннікава, ні яе родныя.

**(Па старонках рэспубліканскіх газет).**

